# НЕЗАЛЕЖНІК

КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫ Й ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС

ВЯЛІКАЛІТОЎСКІ ( БЕЛАРУСКІ )

ЛІСТАПАД – 1965 № 1 Выходзе непэрыядычна.

N I E Z A L E Ž N I K (Independence Fighter)

Greatlitvanian ( Byelorussian ) Cultural and Civic Affairs Magazine

ADDRESS: 6 Vandervoort Pl., Brooklyn, N.Y., 11237 U.S.A.

Даўно задуманы, гэты часапіс быў адвалаканы з прычыны нястачы сяродкаў і нястачы часу. Перавказы гэтыя й цяпер не аддалены, але ня можна бясконца адвалакаць. Дык, хоць і з пустым капшуком, але з гарачым сэрцам пачынаем выдаваць "Незалежніка", просячы помачы ў Бога і ў добрых людзёў нашых. Мы верым у сумленьне народу нашага. Паняволены, уціскаlisted, ашукаваны а дэмаралізаваны, Ен не адступаў ад таго, што ўважаў за праўду й дабро: не перачыў сумленьню свайму із страху сьмерці ані прадаваў яго за матар'яльнае дабро. Верым і ў няўмiручую жыцьцявосьць народу нашага. Ня можа загінуць народ, што выдаў гэтулькі вялікіх людзёў, як хіба ні водзін народ у сьвеце. Мы пэўныя, што гэтыя якасьці ё і ў ідэйнай часьці эміграцы нашае, а ў няідэйнай яны могуць быць ускрэшаны. Дык із гэтай вераю прыступаем да сьвятое справы службы Народу свайму і эміграцы ягонае, службы праз "Незалежніка". Наагул жа служба такая нам не навіна.

Якія ж галоўныя й актуальныя прычыны выклікалі патрэбу "Незалежніка" ? Іх дзьве. Аднэй зь іх ё патрэба об'ектыўнага інформаваньня праз розныя добрыя й благія падзеі ў жыцьці эміграцы нашае, разгляд такіх падзеяў, безкомпромісная адважная крытыка іх, бо ж крытыкаю й ё разгляд, разважаньне, каб ацанаваць вартасьць, выявіць і паправіць заганы. Мы ня будзем азірацца на тое "што скажуць людзі ?"

Другой галоўнай прычынаю выхаду "Незалежніка" ё патрэба ідыялёгічнага й палітычна- а культурна- праграмнага выпрацаваньня нашых людзёў. Калі б цяпер Вялікалітва-Беларусь стала незалежнай, дык да яе кожны з нас зьвярнуўся б із сваей апрычонай ідэялёгіяй і апрычонай праграмаю дзейнасьці, дарма што розьніцы памеж нас невялічкія. У вольнай, шчырай, сыстэматычнай дыскусі канцовасьці ў нас згладзяцца, дзіўныя дзівосы шчэзнуць, шкодны чужы налёт асыпецца, да патрэбаў народу свайго прытарнуемся і зьвернемся да роднага краю ідэялёгічна й праграмна задзіночанымі.

У сваей працы "Незалежнік" будзе кіравацца прынцыпамі, выкладзенымі Др.Я.Станкевічам у ягоных артыкулах у газэце "Беларус"*. Імі ё і абавязкавая праца для свайго народу, стаўленьне справы нацыянальнае вышэй за справы прыватныя й асабістыя, рупнасьць словам праз нацыянальнае дабро або накш крытыка і іншыя. Тарнуючы дзейнасьць і шчырасьць, будзем вымагаць гэтага і ад іншых.

Часапіс наш завецца "Незалежнікам", бо, першае, мы змагаемся за гаспадарствавую незалежнасьць нашае бацькаўшчыны Вялікалітвы-Беларусі: другое, ад тых або іншых дужшых за нас мы незалежныя, псыхолёгічна ад усіх вольныя: за галасамі ня гонімся, за добры заработак, становішча, грошы – ад працы дзеля народу свайго не адхінемся.

*Бачыны "Незалежніка" адчыненыя ўсім.* Каб зрабіць прадуху ў досыць душнай атмосфэры эміграцыйнага жыцьця, шырака адчынім усім чыста бачыны нашага часапісу. Кажны бяз вынятку можа друкаваць свае артыкулы й інш. у "Незалежніку" ***бязь ніякае зьмены зьместу,*** калі падпіша іх праўдзівым прозьвішчам або ведамай мянушкаю. Рэдакца за такія артыкулы ня можа адказаваць. Каб жа гэта магло ўжыцьцёвіць выдавецтва без сяродкаў, друк не заказанага рэдакцай матар'ялу маюць аплачаваць прысылаючыя яго. Затым, прысылаючы не заказаны матар'ял, трэба разам укласьці пусты канвэрт із сваім адрысам і налепленым на канвэрце паштовым значком. Адзяржаўшы такі матар'ял, рэдакца накажа пасылаючаму яго, колькі будзе каштаваць друк прысланага ім матар'ялу. Адзяржаўшы патрэбныя на друк грошы,

матар'ял надрукуе. Хто прыблізна будзе ведаць, колькі можа каштаваць друк матар'ялу ягонага, можа разам із матар'ялам прысылаць грошы – чэк. Калі будзе лішніца, рэдакца адашлець: калі нястача – папросе дадаць. Мо' папытающца ў нас: як у такім малым часапісе можна ўсё друкаваць ? Адкажам: "Незалежнік" можа павялічыцца.

*Моўная рэдакца.* У іншых народаў, ідзе пішучыя да друку шмат ляпей знаюць мову, чымся ў нас, матар'ял перад адданьням яго да друку праходзе моўную рэдакцу. У нашых газэтах, часапісах, на'т кнігах гэтага няма, друкуюць такой моваю, якой хто напіша. Затым друк наш ня толькі ня вуча добрай, чыстай мовы, але часта яе псуець. У "Незалежніку" будзем рабіць моўную рэдакцу ўсяго матар'ялу.

*Выдавецтва й рэдакца "Незалежніка".*

# 1000 ГОД БЯЗЬ ЗЬМЕНЫ

## ( Да ўгодкаў Слуцкага паўстаньня – дня гэрояў.)

Хіба будзе цікава зьвярнуць увагу на адну рысу Слуцкага паўстаньня, рысу характарыстычную. Хто асабліва выдаваўся ў паўстаньню Слуцкім, быў правадыром, стаяў на чале яго ? На гэта пытаньне мы адказу ня знойдзем. Калі й быў такі, то ён ня быў агульна, на'т бальшынёй прызнаваны. На чале стаяла Рада Случчыны, вось жа колектыў, дзе пастанаўлялі бальшынёй галасоў.

Гляньма цяпер, што было ў іншым паўстаньню вялікалітоўскім(беларускім), ды такім, што было тысяча год таму. На паўдні Вялікалітвы-Беларусі меж ракі Прыпяці й ракі Ірпеня, правых прытокаў Дняпра, жыло вялікалітоўскае(беларускае) плямя Дзярвяне. Патомкамі іхнымі ё тыя цяперашнія Паляшукі, што займаюць прасьцяг меж менаваных рэкаў.

Да прыходу Норманаў, званых Русамі а Варагамі, усі землі беларускія складалі адну цэласьць із цэнтрам у Полацку. Калі ж у 9-10 стагодзьдзях прышлі Русы-Варагі, яны разьбілі гэную суцэльнасьць вялікалітоўскую(беларускую). Задзяржаўшыся наўперад ля возера Ільменя, яны, супольна з Ноўгарадцамі, забралі крывіцка-вялікалітоўскі(беларускі) Пскоў. Ідучы далоў дарогаю " з Вараг у Грэкі", дыкжэ ў Грэкі, зн. да Бізанты, узалежнілі ад сябе Смаленск і гэткім парадкам адцялі смаленскіх Крывічоў ад полацкага цэнтру. Дзеля таго ж узалежнілі северска-вялікалітоўскі (беларускі) Любеч ля Дняпра і блізкі Чарнігаў. Задзяржаліся, адылі ў Кіеве, як у вапошнім горадзе перад сьцепам, бо паходы на Бізанту паказалі, што можна празь яе лятуцець, але нельга яе зваяваць.

Як у Ноўгарадзе із славенскімі Ноўгарадцамі, так у Кіеве Русы задзіночыліся, адлі зьліліся з украінскімі Палянмі. У гэтых зь няпомных часоў былі войны зь Дзярвянмі вялікалітоўскімі(беларускімі), бо Паляне, папіханыя з паўдня качавымі народамі, цiснуліся на поўнач, да зямлі Дзярвян, а гэтыя з дасьпехам іх адбівалі. Цяпер жа разам із Русамі, зацікаўленымі дзеля гандлю дарогаю на захад па Прыпяці, яны перамаглі Дзярвян і абклалі іх даняй. У Дзервах, як звалася дзярвянскае гаспадарства, былі князі, ды князі добрыя, за імі забагацела Дзярвянская зямля. Яны, подле асьветчаньня Дзярвян, "упасьцілі Дзераўскую зямлю." "Дзяржалі", адылі, Дзервы, дзярвянскую зямлю, значыцца кіравалі, радзілі яе не князі, але "лепшыя людзі" з памеж самога народу. Гэтыя ж лепшыя людзі і пасолствы пасылаюць да чужых краёў. А паслове, прыехаўшы, ня кажуць, што прыехалі ад такога а такога князя, але: "Паслала нас Дзераўская зямля". І паўстаньне – супроці Кіева – пачынаюць у 945 г. не князі, але Дзярвняе, зрадзіўшыся із сваімі князьмі. І на вайне і пры замірэньню князя ня відаць, а ўсі тыя ж Дзярвяне, народ. Адным чынам не абмылімся, калі скажам, што ўлада дзярвянскіх князёў ня была шмат больза ўладу караліцы Вялікабрытанскае ў нашым часе.

Але й сярод тых "лепшых людзёў", што малі значаньне ў свайго плямені, няма аднаго, на'т у часе паўстаньня, хто стаяў бы на чале, быў правадыром: "лепшыя людзі" дзярвянскія – гэта тая ж Рада Случчыны.

Як бачым, адно паўстаньне ад другога дзеле час тысяча год, а характар народу тый самы. Характар гэты – рэспубліканскі. У характару рэспубліканцаў ё тое, што яны неахвотна паддающца аўторытэтам, ня любяць аўторытэтаў. Кажуць, калі зыйдзецца трох Немцаў, дык адзін кіруе, а двух слухае. А калі зьбярэцца сту Вялікаліцьвіноў-Беларусаў, нама аднаго, каторага слухалі б. Мусяць зрабіць пастанову, тады слухаюць пастанову.

Дзеля менаванага стаць прызнаным гэроям у Вялікалітве-Беларусі цяжка. Гэрой беларускі мусіць шмат пераходзіць гэрояў іншых краёў. Яму мала быць харобрым, здольным, удалым, мець дасьпехі, ён мае быць геніяльным і мець дасьпехі вялізарныя. І такія гэроі ў Вялікалітве-Беларусі былі, пачынаючы знайраньшага гістарычнага часу.

*Др. Я.Станкевіч.*

Ня буду тут пісаць праз вялікую патрэбу свайго беларускага культурнага цэнтру супачынку, рэсорту. Бадай усі гэта ведаюць.

Звыш 4-ох год таму Пётра Маркоўскі а Юрка Станкевіч пачалі, разьяжджаючы, шукаць Беларусаў, каторыя згадзіліся б быць сябрамі ў куплі фармы дзеля супачынку, рэсорту. Пасьлей да іх прылучыўся Васіль Юрцэвіч. Калі Маркоўскі мусіў вучыцца за зубнога лекара, далей працавалі засталыя ўдвух. Юрцэвіч тады працаваў сусім добра.

Па куплі рэсорту, на пачатку 1963 г., агульны сход сяброў ягоных абраў Раду Дырэктароў,каторая абрала за старшыню Юрцэвіча. Ня цяжка было бачыць, што Юрцэвіч не падходзіў на гэта становішча. Дзякуючы, адылі, аднаму з абраных дырэктароў, каторы звычайна дзее із засьценьня (з-за кулісаў), Юрцэвіч быў абраны за старшыню. Ён жа тады прыняў на сябе абавязак глядзець усей тэхнічнай справы ў рэсорце. Можна зазначыць, што ўзглядам такой гаспадаркі, як у рэсорце, Юрцэвіч такі ж прыблізна ўмелец, колькі ўзглядам дому вартаўнік(джэнітар) яго, які заразом робе "малыя папраўкі". Але ня ў гэтым бяда, бо ня ўсё ён мусіў сам рабіць, мог наймаць рамесьнікаў. Бяда была ў чым іншым. Старшыня, ён жа загаднік усяе тэхнікі ў рэсорце, ня дбаў свайго абавязку. Хто знаў яго рупнага тады, калі стараліся прыдбаць рэсорт, і цяпер, дык проста нельга было пазнаць чалавека, Цяпер рупнасьці ані ня было, дарма што ў будынках цякло, матрацы гнілі, калі ня вылічаць іншых рэчаў. Тыя, што ўперад знаді Юрцэвіча, казалі, што такія зьмены ў яго звычайныя; ён добры, калі трэба што арганізаваць, тады рупіцца, каб паказаць, на што ён здольны, каб уславіцца. Калі ўжо што арганізавана(куплена,прыдбана),тады ня дбае.

У гэтым жа часе Юрцэвіч выказаваў думку, каб пертварыць рэсорт у "межнародны".

У 1963 г., у часе сэзону я жыў у рэсорце паўтара месяца, і ня бачыў, каб Юрцэвіч там працаваў. Перад тым два тыдні,у часе сэзону, жыла там мая жонка, і блізу тое самае казала. А тым часам Юрцэвіч сабе налічыў за гэты сэзон 650 гадз. і, лічачы за гадзіну два даляры, налічыў 1300 дал. на каторыя выпісаў сабе трынанцаць шэраў. Калі б ён нават запраўды рабіў па 6 гадзінаў у дзень (бо ніколі не рабіў болей), дык гэта было б 108 дзён або 21 1/2 тыдня(лічачы па 5 дзён у тыдні). Значыцца, ён палічыў сабе шмат болей дзён, чымся іх было ў цэлым сэзоне(ня поўныя 3 месяцы). Ён сам прымаў сваю работу, сам і выдаваў сабе за яе шэры.

Дзеля менаванага на годнім зьезьдзе сяброў Бэлэр Менску на пачатку 1964 году я пасуліў, каб ня ўсі трынанцаць шэраў прызнаць Юрцэвічу за работу. Але гэта не прайшло. Зь дзьвюх галоўных прычынаў гэтага аднэй было тое, што Юрцэвіч ужо быў стварыўшы сабе групу,– не якуюсь ідэялёгічную, але суседзка-таварыскую, ды не бяз чаркі. Група гэта яго сьлепа паддзержавала(праз прычыну другую будзе мова ніжэй). Дзеля менаванага новы склад Рады Дырэктароў быў абраны такі, які ізноў абраў Юрцэвіча за старшыню.

Тады ж было відавочна, што Юрцэвіч імкнецца мець як найбольш шэраў, каб узалежніць ад сябе рэсорт. Затым я суліў абмежыць колькасьць шэраў кажнага сябры да 10-х. Але новая Рада Дырэктароў дазволіла кажнаму сябру мець да 15-ёх шэраў улучна. Юрцэвіч выпісаў шэры ня толькі на сябе, але й на сяброў свае радзімы(сям'і). Адныя кажуць, што разам із сваёй сям'ёю ён мае цяпер 20 шэраў, іншыя, што больш 30-ёх. Такая розьніца ў ліках вынікае з тае прычыны, што Юрцэвіч хавае ад шэраўцаў як колькасьць шэраў кажнага, так і адрысы й прозьвішчы іх.

Летась, у 1964 годзе я ня жыў у Бэлэр Менску, і не магу сказаць, як там вялі гаспадарку. Адно пэўна, што стан рэсорту пагоршаў, і быў ладны дэфіцыт, дарма што было даведаньне зь першага году. Хто гэтаму вінен? Можна агульна зацеміць, што пры дыктатарскім характару Юрцэвічавым і пры неперабіраньню ім сяродкаў у змаганьню як із непрыяцелям, так із прыяцелям, мэнаджэр мусіць быць вельмі асьцярожным і станаўкім у вабароне таго, што ўважае за патрэбнае ў рэсорце, каб не паддацца Юрцэвічу-старшыні.

*Умова Юрцэвічава з мэнаджэрам.* Напісаўшы да гэтага месца, я адзяржаў копію ўмовы Юрцэвіча з мэнаджэрам. Зь яе відаць, што Юрцэвіч дагэнулешнюю сваю "дзейнасьць" хацеў замацаваць на пісьме ўмоваю. Умова, зробленая ў Брукліне, штату Ню Ёрк, дня 1-га красавіка 1964 году, паміж, з аднаго боку: Сп.Васілём Юрцэвічам, старшынёю карпарацыі Бэлэр-Менск, пражываючым пры вуліцы Роэблінг, дом № 197, у Брукліне – *а будзе ў далейшым разумецца пад назовам "Кіраўніцтва Рэсорту"*(падч. мае – Я.С.), а з другога боку: Сп.Паўлам Куляшом. Хоць Юрцэвіч у гэтай умове названы старшынёю карпарацыі, але гэта толькі тытул ягоны, а выступае ён асабіста, бо не сказана, што ён выступае ад(імені) карпарацыі або ад Рады Дырэктароў: таксама й адрыс ягоны паданы прыватны. Відаць, дзеля важнасьці Юрцэвіч назваў тут сябе зборным імям "Кіраўніцтва Рэсорту" ( як царскае "мы" ). І далей Юрцэвіч завець сябе "Кіраўніцтвам Рэсорту". Гэтак, у канцы бодкі 1-шай, па вылічэньню ўсіх абавязкаў мэнаджэра,

** У гэтым артыкуле пастараюся не паўтараць таго, што я сказаў у сваім зьвярненьню "Да сяброў Супалкі Бэлэр Менск" із 10-га верасьня сёлета, разасланым невялічкай часьці сяброў рэсорту.*

кажацца, што ён мае "наагул супрацаваць з Кіраўніцтвам Рэсорту у ўсіх галінах дзейнасьці й жыцьця карпарацыі на працягу цэлага году." У канцы бодкі другое кажацца, што мэнаджэр "будзе стала пражываць на Рэсорце Менск, з тым што Кіраўніцтва Рэсорту забясьпечыць мінімальнымі да гэтага ўмовамі". Таксама ў бодцы 4-тай.

Толькі ў вадным месцу, наймя ў сярэдзіне бодкі трэйцяе кажацца: "Кіраўнік(гэтак у умове названы мэнаджэр – Я.С.) мае права рабіць аплаты за матар'ял і працу важнага й наглага(зн. неўспадзеўкі пасьпешнага –Я.С.) характару, аднак стараючыся перад гэтым узгодніць прынамся з адным сябрам кіраўніцтва." З гэтага неўспадзеўкі даведуемся, што быццам ё яшчэ нейкі ці нейкія іншыя сяброве кіраўніцтва, адылі такія нейкія далёкія, няважныя, малога значаньня, што да іх тады толькі мэнаджэр мае зьвярнуцца, як ё справа важная й неўспадзеўкі пасьпешная, калі няма часу зварачацца да запраўднага "Кіраўніцтва" – Юрцэвіча.

У тэй жа бодцы трэйцяй кажацца: "Кіраўнік *адказвае за сваю дзейнасьць толькі перад Кіраўніцтвам Рэсорту(*экзэкутываю), але ягоным абавязкам будзе выслухаць *добрыя парады* і іншых сяброў Рады Дырэктароў". Вось тут толькі, калі Юрцэвіч хацеў сказаць, каб мэнаджэр ня слухаў дырэктароў("выслухаць" ня знача паслухаць, спаўніць), але адказаваў толькі перад "Кіраўніцтвам" – Юрцэвічам, і менавана Рада Дырэктароў, а так із цэлай умовы( на 3-ох бачынах ) праз быцьцё яе нельга было б даведацца.

У бодцы трэйцяй кажацца, што мэнаджэр "на дробныя выдаткі мае права выдаваць гатоўку ў суме да пятнанцацёх даляраў".

У бодцы чацьвертай умовы кажацца:"Старшыня В.Юрцэвіч або("або" тут можа значыць "значыцца" "накш кажучы", – Я.С.) Кіраўніцтва Рэсорту ўстанаўляюць(тут ізноў царскае "мы") агульную палітыку Рэсорту, якую выконуе кіраўнік(зн. мэнаджэр), устанаўляюць плату ўсім працаўнём Рэсорту і апрабуюць усе выдаткі вышэй сумы, азначанай у бодцы 3-цяй(зн. да пятнанцацёх дал.). Таксама ўстанаўляюць цэны на напіткі ў бару й рэстаране й цэны на пакоі".

Калі мэнаджэр у справах важных, заразом неўспадзеўкі пасьпешных мае наперад узгодніць выплату хоць бы з адным сябрам кіраўніцтва, дык і пагатове ён мае *наперад* адзяржаць апрабату ад Кіраўніцтва – Юрцэвіча, калі неспадзяванай пасьпешнасьці няма.

Умова не дазваляе мэнаджэру адазвацца да Рады Дырэктароў, калі ён у чым-колечы ў справах рэсорту не згаджаецца зь "Кіраўніцтвам" – Юрцэвічам, або гэты яго крыўдзе. Першай і апошняй інстанцай мэнаджэру ё "Кіраўніцтва" – Юрцэвіч. У ўмове мэнаджэр названы "кіраўніком". Калі Юрцэвіч завецца "Кіраўніцтвам", дык запраўдны мэнаджэр павялікалітоўску(пабеларуску) меў бы быць названы загаднікам, а такім, якім ён ё ў умове, дый запраўды ў сваей працы ў рэсорце, ён – парабак. Юрцэвіч жа подле тае ж умовы, дый у сваей дзейнасьці ў рэсорце – неабмежаны гаспадар, з большай уладаю ў рэсорце, чымся прэзыдэнт у Задзіночаных Гаспадарствах.

Што можа рабіць самастойна, значыцца безь пярэдняй апрабаты, мэнаджэр ? – Толькі выдаць на дробныя выдаткі да пятнанцацёх даляраў. Дык толькі за іх ён мае адказаваць, толькі зь іх мае здаваць лічбу. За ўсе іншае мае адказаваць "Кіраўніцтва" – Юрцэвіч. Тым часам добрае Юрцэвіч прыпісуе сабе, а за ліхое вінуе мэнаджэра, не зважаючы на тое, хто што зрабіў.

Мала гэтага: Юрцэвіч ня толькі старшыня, ня толькі "Кіраўніцтва Рэсорту", ён у тым самым часе работнік у рэсорце. За сваю работу ён адзержуе плату ад корпорацы. Першы год ён сам прымаў сваю работу і сам выпісаваў сабе за яе шэры. Другі год быццам меў прымаць ад яго работу мэнаджэр. Але ці можа мэнаджэр-парабак контроляваць, правяраць работу гаспадара, сьцьвярджаць, што і як ён зрабіў, колькі патраціў на гэта часу ? – Ня можа, найболей можа быць сьветкаю.

Менаваным ліха не канчаецца. Такія дачыненьні, якія ё памеж старшынём – "Кіраўніцтвам Рэсорту" з аднаго боку і мэнаджэрам з другога боку, у ўмове і ў жыцьцю – працы рэсорту ё дачыненьнямі дэмаралізуючымі. Бо прадстаўце сабе, калі мэнаджэр ня можа да нікога адазвацца, апэляваць, калі ён зданы ў усім на ласку і няласку кіраўніцтву – старшыні, адзяржыць ад гэтага якую палёгку. Ведама, наступной палёгкі ён можа спадзявацца тады, калі на палёгку адкажа палёгкаю, калі старшыні-Кіраўніцтву-работніку заліча , прыкладам, гадзіну за дзень або падобна. Я не кажу, што так было, бо ня ведаю, і ня ведаючы, валей маю што за добрае, чымся за благое. Але калі мэнаджэр не паддаўся дэмаралізацы, дык гэта ня знача, што ўмова і такія ж дзейнасьць і становішча старшыні-"Кіраўніцтва" ў рэсорце ня ё сваім характарам дэмаралізуючымі.

А во зраза "правадаўства" Юрцэвічавага. Умова ягоная з мэнаджэрам канчаецца гэтак: *"Пункты, якія пярэчаць закону штату Ню Ёрк, або законам фэдэральным зъяўляюцца няважнымі, але зъяўляюцца важнымі перад Карпарацыяй Бэлэр Менск і перад беларускім грамадзтвам і аднолькава забавязваюць абодва бакі."*

Умова Юрцэвічава ё пісомым дакумэнтам таго, што бачылі вочнікі. 29-га жніўня на пасядзеньню Рады Дырэктароў В.Кіпель, заступнік Юрцэвічаў, асьветчыў, што разгледжаная гэтта імною ўмова абавязуе дагэтуль. Іншыя дырэктары гэтаму не заперачылі.

Запраўды ж у рэсорце мела б быць так, як ё ўсюдых у такіх прадпрыемствах, гэтак: Усім у рэсорце мае загадаваць загаднік(мэнаджэр) рэсорту, ён жа мае браць людзёў на работу, прымаць ад іх работу і выдаваць ім лісты(ордэры) на выплату заробленай платы: заданьням жа старшыні корпорацы мае быць агульны нагляд над усім у рэсорце, у тым ліку й над працаю загадніка. Калі старшыня бача, што загаднік не паступае так, як належа, ён мае зьвярнуць увагу загадніку. Калі ж гэты будзе пераканаўшыся, што ён робе добра ў тым або іншым – што не старшыні, а ягоная праўда, ён ня толькі мае права, але й абавязак не паслухаць старшыні. Тады гэты, калі застанецца пры сваім пагляддзе, мае адазвацца да Рады Дырэктароў. Што дырэктары пастановяць, тое й мае быць.

*Будоўля залі.* У 1964 годзе пачалі ставіць залю ў рэсорце. З двух – загадніка(мэнаджэра, запраўды парабка сваім палажэньням у рэсорце), Паўлы Куляша і В.Юрцэвіча – больш гадзіўся за будаўнічага залі першы. бо ён уперад быў кантрактарам. Будаваньне залі, адылі, было паручана Юрцэвічу. Пішуць імне, што "Ён ад самага пачатку прыступіў да гэтае работы, абсалютна ня ведаючы з чаго пачаць". А прымеж таго ён самадумам мяняў шмат чаго з таго, што было ў пляне залі, зробленым будаўнічым інжынерам. Адумысловец, ён жа сьветка, піша імне: "Сама работа зьбіваньня крокваў і пастаўленьня іх на будынак заняла цэлую зіму тром работнікам, дый усё роўна не абышлося бяз помачы кантрактара. Пры фаховай і ўмелай рабоце гэта можна было зрабіць у працягу трох тыдняў пры тэй жа колькасьці рабочай сілы".

Умова із загаднікам(мэнаджэрам) была ўчынена да 1-га красавіка 1965 г., але чамусьці, увосень 1964 г., Юрцэвіч звольніў загадніка. Такім парадкам не засталося на'т сьветкі таго, як ён сам прымаў сваю работу, сам выпісаваў і падпісаваў сабе за яе чэкі.

*Як ё ў зьвязку з пабіцьцём Каралевіча.* Як ведама, неўзабаве па пабіцьцю Каралевіча, адвакат ягоны прыслаў абвінавальны ліст Юрцэвічу, Лісу й Бэлэр Менску, даючы ім час пагадзіцца з Каралевічам да пятнанцатага верасьня. Яшчэ перад выдрукаваньням( на машынцы ) свайго зьвярненьня "Да сяброў супалкі Бэлэр Менск" зь 10-га верасьня, я даведаўся ў скарбніка Корпорацы, В.Пелясы, што Каралевіч звольніў ад віны рэсорт: гэта я й паўтарыў у кадзе менаваным зьвярненьню сваім. Як пасьлей, адылі, выявілася, толькі перад самым адданьням да друку гэтага нумару "Незалежніка" стала напэўна ведамым, што Каралевіч абяцаў пасуліць адвакату звольніць рэсорт ад адказнасьці. Калі гэта станецца, то й тады рэсорт ня будзе сусім бясьпечным узглядам суду, бо Юрцэвіч не перастаець цьвердзіць, што ён "дзеіў" як старшыня Бэлэр Менску дый застаецца старшынём, а Рада Дырэктароў, як цэласьць, застаецца пасыўнай узглядам учынку Юрцэвічавага. Затым нельга не парушацца праз тое, каб суд абмыльна не прыхінуўся да хвальшывага цьверджаньня Юрцэвічавага.

На пасядзеньню Рады Дырэктароў 29-га жніўня, на каторым я быў з парадным голасам, В.Кіпель, заступнік старшыні, пасуліў наняць ад рэсорту адваката ў справе пабіцьця Каралевіча і суду за гэта пабіцьцё. Гэтаму пасуленьню ня было запярэчана: ня было й пастановы на тым жа пасядзеньню ані пасьлей, што Юрцэвіч ня мае права наймаць сабе адваката ад рэсорту ані ад сябе коштам рэсорту. Юрцэвіч жа, як сказана вышэй, цьвердзе, што ён "дзеіў" як старшыня Корпорацы Бэлэр Менск. Дык консэквэнтна вынікала, што ён і адваката наняў коштам рэсорту. Гэта адбілася і ў маім зьвярненьню "Да Сяброў Супалкі Бэлэр Менск" ізь 10-га верасьня. Цяпер, адылі, чуваць, што заступнік старшыні Кіпель, прыватна гавора, што Юрцэвіч сваім коштам наняў адваката. З гэтага трэ' было б цешыцца, бо, першае, выдаткі рэсорту былі б меншыя, а, другое, гэтым Юрцэвіч пасярэдне прызнаваў бы, што ён біў Каралевіча асабіста, а не як старшыня рэсор ту. Як там ё з аплатаю адваката і іншымі выдаткамі, зьвязанымі із судам за пабіцьцё Каралевіча і із самым пабіцьцём, няма пэўнасьці, пакуль Юрцэвіч або скарбнік Пеляса пісома(на пісьме) не асьветчаць, як было й ё.

*Дачыненьні да рэсорту двух асяродкаў.* Каб ясным было палажэньне рэсорту Бэлэр Менск, я мушу зьвярнуцца назад да часу прыдбаваньня яго. Ідэя, узьнятая маладымі ідэялістымі, каб расьцярушаныя і далей цярушаныя памеж чужых Вялікаліцьвіны–Беларусы мелі свой асяродак, ідзе маглі б усі разам сустракацца, асяродак, што меў бы значаньне нацыянальна-культурнае й гаспадарскае ды заразом быў месцам супачынку, ня так, як належа, была прынята двума зь беларускіх асяродкаў. Адным із іх ё тая часьць Нюёрцкае акругі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня(БАЗА), ідзе(дзе) пераважаюць належачыя да (эміграцыйнае) Рады БНР і прызнаючыя за яе старшыню Абрамчыка. Яны як цэласьць мала прычыніліся матар'яльна да прыдбаньня рэсорту, а асобава яшчэ менш. Яны таксама прымалі малы й наагул пасыўны ўдзел у годніх зьездах сяброў Бэлэр Менску. Не праяўлялі яны й словам якое-колечы дзейнасьці, зацікаўленьня станам рэсорту. Дачыненьні іх да рэсорту, прынамся як цэласьці, з выняткам двух-трох, можна назваць адным словам – пасыўнасьць.

Другім падобным асяродкам была тая часьць саўтрывэрскіх Вялікаліцьвіноў(Беларусаў), каторую кіруе Іван Касяк і а.прот.М.Лапіцкі. Яны а Барыс Шчорс вельмі войстра ставіліся супроці куплі рэсорту, а па куплі не перасталі быць супроці яго. Як прыклад можна прывесьці, што, калі ў

1963 годзе гатаваліся ў Бэлэр Менску да дзяцінага табару, дык, каб да яго не дапусьціць, у Саўт Рывэру менаваныя кіраўнікі субралі сход, на каторым пастанавілі паслаць 60-цера дзяцей на фарму Бобрыкаву. З гэтага нічога ня вышла, бо, калі мелі плаціць, дык бацькі не далі грошай. Сьцьвярджаю толькі факты ўзглядам адных і другіх, прычыны можна будзе падаць у наступным нумару "Незалежніка".

З прычыны пасыўнасьці адных і дзейнага непрыязьньства другіх недастатная колькасьць сьведамых(нацыянальна-ідэйных) Беларусаў стала сябрамі Бэлэр Менску. Каб ініцыятары прыдбаньня рэсорту абмежыліся сьведамымі й арганізаванымі Беларусамі, дык рэсорту й ня было б. Але яны езьдзілі й да неарганізаваных, толькі ведаючых, што яны Беларусы, і сярод іх субралі канечную колькасьць. Гэтыя, адылі, ня сталі дзейнымі ад адных сваіх складак(шэраў), засталіся, якімі былі. Ня відаць, каб яны цікавіліся справамі рэсорту. У годніх зьездах сяброў Бэлэр Менску яны або ніякага ўдзелу ня прымаюць або прысылаюць паўнамоцтвы старшыні, бо звычайна людзі ўважаюць, што старшыня арганізацыі найболей ей прыяе. Адрысы гэтых сяброў маюць і самых іх знаюць толькі Юрцэвіч, Пеляса(скарбнік) і заступнік старшыні Кіпель. Каб жа яны ня зналіся зь іншымі сябрамі рэсорту ані гэтыя да іх не маглі мець ніякага прыступу, дык гэтыя трох не даюць іншым сябром адрысоў іхных ані прозьвішчаў. На пасланую да іх просьбу даць імне прозьвішчы й адрысы ўсіх сяброў, я не адзяржаў адказу. Вось гэтая, толькі менаваным тром ведамая часьць сяброў Бэлэр Менску ё другой прычынаю, чаму Юрцэвіч мог быць трэйчы абраны за старшыню.

*Рэсорт Бэлэр Менск можа быць толькі як прадпрыемства агульна-беларускае.* Калі б пагроза з боку суду мінула, але Юрцэвіч быў яго старшынёю, то й тады загуба рэсорту нямінучая: сваей самадыйнай гаспадаркаю Юрцэвіч давёў бы яго да загубы, тым больш, што вялікая часьць, на'т бальшыня, дагэтуль прыяжджаючых яго байкатавала б. Тое самае сталася б, калі б рэсорт захапіла якая беларуская *група.* У такой прыгодзе рэсорт або неўзабаве загінуў бы, або, стаўшы "межнародным" (запраўды польска-расійскім або расійска-польскім), да чаго Юрцэвіч імкнецца, загінуў бы калі б яго кіравалі Юрцэвічы, або стаў бы нам чужым, як ё чужыя польскія й расійскія рэсорты. Рэсорт Бэлэр Менск можа быць толькі як прадпрыемства агульна-беларускае, ды бяз згубнай гаспадаркі Юрцэвічавай.



*Із спосабаў Юрцэвічавых.* Нас просяць зьмясьціць у "Незалежніку" пра наступное стацьцё. Каб неразлучна на вечныя часы зьвязаць із сабою Бэлэр Менск, Юрцэвіч імкнецца стаць назаўсёды ў рэсорце загаднікам усяе тэхнічнае работы, загаднікам добра плачаным, дарма што ён не рамесьнік. У тэй часьці рэсорту, дзе стаяць дамы, у якіх пакоі здаюць прыяжджаючым гасьцём, маніліся даць Юрцэвічу зямлі, на каторай бы ён сваім коштам пабудаваў сабе дом, каб жыць у ім із радзімаю(сям'ёю). Зямлю маніліся даць у хорме концэсі, як ранду на 99 год із платаю па даляру ў год. Разам із гэтым Юрцэвіч спадзяваўся адзяржаць яшчэ іншыя правы, якія сусім чыста ўзалежнілі б ад яго рэсорт.

Неўспадзеўкі, адылі, сталася перашкода плянам Юрцэвічавым. Хтось знайшоў іншага кандыдата на становішча рамесьніка ў рэсорце. Гэты чалавек, майстра на ўсі рукі, паўніў бы ўсю тэхнічную работу. Ён таксама паставіў бы сабе дом, але ў лесе, на сваей, купленай у Бэлэр Менску дзялёнцы. Умовы ягоныя ўсі дырэктары ўпадабалі. За прыймом іх быў і Юрцэвіч, але, як пасьлей высьнілася, ня шчыра. З прычыны познага часу не магла быць зроблена ўмова адразу на пісьме. За тыдзень кандыдат меў прыехаць падпісаць умову. Але ня прыехаў. Прычына няпрыезду была гэткая. Калі гэты спадар ад'яжджаў з рэсорту, Юрцэвіч прапушчаў яго і шмат расказаваў яму, колькі ён(Юрцэвіч) паклаў працы дзеля рэсорту і ў канцы прасіў яго не гадзіцца за рамесьніка ў рэсорце, не перашкаджаць яму быць у ім рамесьнікам. Новы кандыдат пашкадаваў Юрцэвіча і ня прыехаў рабіць умовы.

*Верасень, 1965 г.* *Др.Я.Станкевіч.*

## ХРОНІКА

*Гісторыя мастацтва беларускага.* У 20-тых гадох найважнейшай навуковай працаю, выданай у Менску, была кніга проф.Міколы Шчакаціхіна – "Нарысы гісторыі мастацтва беларускага". У ёй глыбака й шырака абнята й выразьліва паказана гісторыя мастацтва народу нашага. З кнігі Шчакаціхіна мы бачым багацьце мастацтва нашага, высокія якасьці яго, арыгінальнасьць і своеасаблівасьць яго. Як мастацтва беларускае ў Шчакаціхіна, так мае быць скумана й пісана гісторыя Беларусі наагул: дый праца Шчакаціхінава ё часьцяй гісторыі Беларусі, вялікай часьцяй культуры яе.

Калі ў 30-тых гадох бальшавікі маскоўскія фізычна нішчылі народ наш, асабліва інтэлігенцу ягоную, зьнішчылі яны таксама Міколу Шчакаціхіна, а гэтую працу ягоную сконфіскавалі. Захаваўся, адылі, яе экзэмпляр у вольным сьвеце, і ё магчымасьць яе перавыдаць фотографічным спосабам. Вельмі пажадана, каб эміграца наша зрабіла гэта. Было б гэта яе вялікай заслугаю перад сваім народам. Да кнігі трэ' было б толькі дадаць рэзюмэ паангельску.


*Printed by: PAHONIA Printing Corp. 230 Springfield Ave., Rutherford,N.J.*